ГРАМАДСКІ НАЗІРАЛЬНІК СЯРГЕЙ ГОЎША



СПРАБУЕ РАЗАБРАЦЦА З ПАРУШЭННЯМІ НА ВЫБАРЧЫМ УЧАСТКУ

СТАР. 2

Веснік ПРАВАабаронцы

№ 3 (23) 2014.03

УЛАДЗІМІР ГУНДАР АДЗІНОЧНЫМ ПІКЕТАМ

САЛІДАРЫЗАВАЎСЯ З УКРАІНСКІМ НАРОДАМ У БАРАЦЬБЕ З АГРЭСАРАМ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ВЫБАРЫ

# ВЫБАРЫ ДЭПУТАТАЎ МЯСЦОВЫХ САВЕТАЎ ДЭПУТАТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДВАЦЦАЦЬ СЁМАГА СКЛІКАННЯ 23 САКАВІКА 2014

## Папярэдняя справаздача па выніках назірання

Назіранне ажыццяўлялася актывістамі РПГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» і Праваабарончы цэнтр «Вясна» ў межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары».

У межах кампаніі працавала 30 доўгатэрміновых назіральнікаў, а таксама 220 кароткатэрміновых назіральнікаў, якія назіралі на 180 участках па ўсей Беларусі.

Пад час назірання ў дзень выбараў у справаздачы выкарыстоўвалася ў тым ліку інфармацыя, прадстаўленая назіральнікамі праекта «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка» (ЕОТР).

АГУЛЬНЫЯ ВЫСНОВЫ

Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» лічыць, што выбарчы працэс прайшоў з сур'ёзнымі парушэннямі прынцыпаў дэмакратычных і справядлівых выбараў, замацаваных стандартамі АБСЕ і беларускім заканадаўствам. Атмасфера палітычнага пераследу і рэпрэсій апанентаў улады, на фоне якой праходзіла выбарчая кампанія, абмежаванні падчас фарміравання выбарчых камісій, агітацыйнай кампаніі негатыўна паўплывалі на свабоду выбару.




Выбарчае заканадаўства не забяспечвае празрыстасці працэсу стварэння выбарчых камісій усіх узроўняў. Звесткі пра дату і месца пасяджэння адпаведных органаў па стварэнні выбарчых камісій былі маладаступнымі. Зафіксаваныя факты прамых адмоваў назіральнікам у атрыманні гэтай інфармацыі.

46 % назіральнікаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» не былі дапушчаныя на пасяджэнні органаў па фарміраванні ТВК; 43% не дапусцілі на пасяджэнні органаў, якія фарміравалі АВК; 52 % не дапусцілі на пасяджэнні органаў, якія фарміравалі УВК. 100% назіральнікам кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» адмовілі ў праве назіраць за працэдурай праверкі подпісаў і іншых дакументаў, пададзеных на рэгістрацыю кандыдатаў. Таму сцвярджаць, што падыход камісій да праверкі дакументаў быў аб'ектыўным, немагчыма.

Як правіла, пасяджэнні органаў, якія фарміруюць выбарчыя камісіі, прайшлі фармальна: на іх не былі прадстаўлены і абмеркаваны кандыдатуры вылучаных, галасаванне рабілася адразу за прапанаваны спіс. Фактычна пасяджэнні зводзіліся да безальтэрнатыўнага зацвярджэння загадзя падрыхтаваных прадстаўнікамі мясцовых органаў улады спісаў складу камісій.

Фарміраванне выбарчых камісій сведчаць аб відавочна дыскрымінацыйных падыходах. У склад ТВК ад апазіцыйных партый увайшло толькі 5 чалавек (0,047% ад агульнай колькасці сяброў ТВК ці 11,4% ад агульнай колькасці вылучаных прадстаўнікоў апазіцыйных партый). Кандыдаты ад праўладных партый увайшлі ў склад ТВК у 80%.

У АВК доля прадстаўнікоў апазіцыйных партый склала 0,25 %. У камісіі гэтага ўзроўню ўвайшло толькі 11 апазіцыянераў (5,95 % ад вылучаных), пры тым што прадстаўнікі праўладных партый увайшлі у 69,6%.

У УВК доля прадстаўнікоў апазіцыйных партый склала 0,031 %. З усіх вылучаных ад апазіцыйных партый уключана толькі 5,6 %,

*Працяг на ст.2-3.*

### Баранавічы: на пяці альтэрнатыўных акругах пераможцаў ад апазіцыі няма

Сталі вядомы афіцыйныя вынікі галасавання ў Баранавіцкі гарадскі савет на 5 альтэрнатыўных выбарчых акругах, дзе прэтэндэнтамі былі прадстаўнікі дэмакратычных партый. Не толькі на альтэрнатыўных, але і на безальтэрнатыўных выбарчых акругах перамаглі праўладныя кандыдаты.

Актывіст недзяржаўнага прафсаюза РЭП Рыгор Грык на выбарчай акрузе № 15 набраў, па афіцыйных дадзеных, 11, 9 % галасоў выбаршчыкаў. Два прадстаўнікі партыі левых "Справядлівы свет" Віктар Цяпін на выбарчай акрузе № 11 набраў 8,2 %, а яго калега па партыі Чэслаў Гузоўскі на выбарчай акрузе № 25 набраў 17, 6 % галасоў грамадзян, якія прынялі ўдзел у галасаванні.

За беспартыйнага кандыдата ў дэпутаты індывідуальнага прадпрымальніка Дзмітрыя Аўгуста на выбарчай акрузе № 20 прагаласавала 20% выбаршчыкаў. А выкладчык Баранавіцкага дзяржаўнага універсітэта Сяргей Мудроў, які балатаваўся па гарадской выбарчай акрузе № 35, атрымаў 26,9 % галасоў выбаршчыкаў.

Абсалютная большасць з 36 абраных дэпутатаў у гарадскі савет з'яўляецца кіраўнікамі дзяржаўных структур і прадстаўнікамі праўладных палітычных партый і грамадскіх арганізацый.

Праваабаронцы за свабодныя выбары"

## назіральнік просіць пракуратуру праверыць "рэкорды" галасавання на даму



Незалежны назіральнік Сырыца Віктар 24 сакавіка накіраваў скаргу ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру на парушэнне Выбарчага кодэкса сябрамі камісіі ўчастка № 49 (СШ № 21). У сваёй скарзе Віктар Сырыца ўказвае, што ў выніковым пратаколе пазначаны надзвычай высокі адсотак галасавання па месцы жыхарства. У дзень выбараў 23 сакавіка на ўчастку за цэлы дзень прагаласавала 396 выбаршчыкаў, а па месцы жыхарства – 403 чалавекі (26,5 % ад усіх прагаласаваўшых згодна выніковага пратакола). Віктар Сырыца адзначае, што арганізацыяй галасавання па месцы жыхарства выбаршчыкаў займаліся толькі 2 сябры выбарчай камісіі з адной выноснай скрыняй прыблізна 3 гадзіны. Здзіўляе проста фантастычная прадукцыйнасць працы 2-х чалавек з камісіі, нягледзячы на тое, што большы час выносная скрыня знаходзілася на выбарчым участку перад вачыма назіральнікаў. Пры гэтым 11 астатніх сяброў камісіі за цэлы дзень выбараў прынялі толькі 396 выбаршчыкаў.

Віктар Сырыца просіць пракурора правесці праверку законнасці галасавання па месцы жыхарства на выбарчым участку № 49. Чаму раптам 26,5% выбаршчыкаў вырашылі прагаласаваць на даму і ці галасавалі яны ўвогуле?

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"

# ВЫБАРЫ ДЭПУТАТАЎ МЯСЦОВЫХ САВЕТАЎ ДЭПУТАТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДВАЦЦАЦЬ СЁМАГА СКЛІКАННЯ 23 САКАВІКА 2014 ГОДА

## Папярэдняя справаздача па выніках назірання

*Заканчэнне з ст.1.*

у той час як ад агульнай колькасці асоб, вылучаных праўладнымі палітычнымі партыямі, у камісіях будзе працаваць 86 %.

УВК традыцыйна сфарміраваны па «вытворчым прынцыпе» (калі рознымі шляхамі ў камісію вылучаюцца працаўнікі аднаго прадпрыемства). Гэта робіць УВК залежнымі не толькі ад мясцовых выканаўчых органаў, якія іх утварылі, але і ад адміністрацый тых прадпрыемстваў, дзе працуюць сябры УВК. За невялікім выключэннем, у склад УВК увайшлі тыя ж самыя асобы, што і падчас апошніх выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у 2012 г.

Адсутнасць вызначаных крытэраў пры адборы прэтэндэнтаў у склад выбарчых камісій робіць фактычна бессэнсоўным абскарджанне рашэнняў органаў, якія іх фарміруюць, у судовым парадку.

На этапе рэгістрацыі кандыдатаў назіральнікі маглі толькі прысутнічаць на пасяджэннях, падчас якіх агучваліся вынікі праверак і выносіліся рашэнні аб рэгістрацыі. Самі ж праверкі дакументаў, пададзеных на рэгістрацыю, праходзілі непразрыста. Гэта істотна зніжае давер да работы ВК, дазваляе ставіць пад сумнеў не толькі асобныя рашэнні аб адмове, але і тыя, паводле якіх кандыдаты былі зарэгістраваныя.

Атрымалі рэгістрацыю 22 338 кандыдатаў (98,81% ад колькасці вылучаных). Такі ж працэнт рэгістрацыі быў і на папярэдніх выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў. Аналіз практыкі і статыстыкі дазваляе сцвярджаць, што працэдуры праверак прымяняліся ВК селектыўна, перш за ўсё, супраць апазіцыйных кандыдатаў. На 88% выбарчых акруг выбары былі безальтэрнатыўнымі.

У многіх выпадках усе бюлетэні лічыліся разам. На 35% участкаў, на якіх знаходзіліся назіральнікі, не было аб'яўлення вынікаў асобнага падліку галасоў.

Адзначаны выпадкі ўкідвання бюлетэняў у скрыні для галасавання сябрамі УВК.

На некаторых участках копіі пратаколаў наогул не вывешваліся для публічнага азнаямлення ці вывешваліся толькі па патрабаванні назіральнікаў.

Галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў праводзілася з парушэннем працэдуры, прадугледжанай у арт. 54 ВК.

Камісіі традыцыйна рабілі «сумесны» падлік галасоў: усе сябры камісіі лічаць адначасова, прычым кожны – свой стос бюлетэняў. Такі спосаб падвядзення вынікаў галасавання не дае магчымасці сцвярджаць, что гэтыя вынікі сапраўды адлюстроўваюць волевыяўленне выбаршчыкаў.

У пераважнай большасці сябры УВК ігнаравалі просьбы назіральнікаў аб забеспячэнні магчымасці назіраць за галасаваннем па месцы знаходжання выбаршчыкаў.

Назіральнікам, зарэгістраваным у тэрытарыяльных камісіях, адмовілі ў праве прысутнічаць падчас працэдуры прыёму дакументаў з участковых камісій.

Магчымасці для арганізацыі назірання былі некалькі палепшаны ўнесенымі ЦВК зменамі ў Палажэнне «Аб парадку накіравання назіральнікаў пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў». ЦВК пагадзілася з прапановай праваабаронцаў аб тым, каб палітычныя партыі, іншыя рэспубліканскія грамадскія аб'яднанні могуць накіроўваць назіральнікаў на пасяджэнні ўсіх выбарчых камісій і на ўчасткі для галасавання.

### ДАТЭРМІНОВАЕ ГАЛАСАВАННЕ

Назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» ажыцяўлялі назіранне на 105 УВК. Згодна з арт. 53 ВК, датэрміновае галасаванне пачынаецца не раней за пяць дзён да дня выбараў. Яно адбываецца ў памяшканні УВК у прысутнасці не менш за двух яе сябраў з 10 да 14 і з 16 да 19 гадзін. Афіцыйнага пацвярджэння немагчымасці прысутнічаць у дзень выбараў ад грамадзяніна не патрабуецца. УВК штодзённа складае і вывешвае пратакол, у якім указваецца агульная колькасць атрыманых бюлетэняў, колькасць выбаршчыкаў, якія іх атрымалі (у апошні дзень – агульная колькасць за ўсе дні), колькасць сапсаваных і асобна – нявыкарыстаных бюлетэняў. Прымус да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні забаронены.

Працэс датэрміновага галасавання адзначыўся фактамі скажэння яўкі выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у датэрміновым галасаванні, а таксама выпадкамі прымусу да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні. Зафіксаваны выпадак беспадстаўнай адмовы ў рэгістрацыі назіральнікаў.

Умяшальніцтва пабочных асобаў у працу УВК адзначана ў сярэднім на 6,6 % выбарчых участкаў. У асноўным такімі пабочнымі асобамі з'яўляліся прадстаўнікі мясцовых выканаўчых органаў улады, прадстаўнікі адміністрацый арганізацый і ўстаноў.

ВЫБАРЫ

Падчас датэрміновага галасавання колькасць выбарчых участкаў, на якіх фіксавалася адрозненні афіцыйных дадзеных і дадзеных незалежнага назірання складае 34,2%. У асобных выпадках назіральнікі бачылі значнае разыходжанне. Напрыклад, УВК №№ 11, 12 г. Магілёва, УВК № 43 г. Баранавічы амаль увесь час датэрміновага галасавання паказвалі лічбы ў 2–3 разы вышэйшыя за лічбы, атрыманыя незалежнымі назіральнікамі.

| КОЛЬКАСЦЬ ВЫБАРШЧЫКАЎ, ЯКІЯ ПРАГАЛАСАВАЛІ ДАТЭРМІНОВА | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Дзень | Колькасць выбаршчыкаў, якія прагаласавалі датэрмінова | | Розніца | % ВУ, на якіх фіксавалася адрозненне паміж афіцыйнымі дадзенымі і дадзенымі назіральнікаў па колькасці прагаласаваўшых датэрмінова |
| | Дадзенныя УВК | Дадзеныя назіральнікаў | | |
| 18 сакавіка | 1684 | 1606 | -78 (4,8%) | 4,7 |
| 19 сакавіка | 3869 | 3576 | -293 (8,1%) | 8,5 |
| 20 сакавіка | 5358 | 4425 | -933 (21%) | 14.2 |
| 21 сакавіка | 8091 | 6481 | -1610 (24%) | 26,6 |
| 22 сакавіка | 11081 | 8959 | -2122 (23,6%) | 21,9 |
| Усяго (у сярэднім) | 30083 | 25047 | -5036 (20.1%) | 34,2 |

Відаць станоўчая дынаміка разыходжання дадзеных яўкі паміж звесткамі назіральнікаў і афіцыйнымі дадзенымі. Спачатку яўка скажалася на 4,8%. 21 і 22 сакавіка разыходжанне дасягнула піку ў 24% і 23,6%.

У камісіях, дзе вялося назіранне, зафіксавана перавышэнне афіцыйных дадзеных яўкі ў сярэднім на 20,1%. Такая розніца ўказвае, што падчас датэрміновага галасавання мелі месца значныя скажэнні яўкі выбаршчыкаў у бок яе павелічэння, што ставіць пад сумнеў афіцыйныя дадзеныя аб яўцы ў 32,04%

### ГАЛАСАВАННЕ Ў ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ І ПАДЛІК ГАЛАСОЎ

У спіс грамадзян, якія маюць права прымаць удзел у галасаванні, уключающца грамадзяне, якія дасягнулі 18 гадоў да дня ці ў дзень галасавання і зарэгістраваны на момант складання спісу выбарчшыкаў па месцы свайго пражывання ці на месцы знаходжання на тэрыторыі ўчастка для галасавання. Грамадзяне, зарэгістраваныя па месцы знаходжання, уключающца ў выбарчыя спісы толькі па месцы свайго знаходжання. За 15 дзён да пачатку галасавання выбаршчыкі могуць азнаёміцца са спісамі выбаршчыкаў. Арт. 21 ВК забяспечвае такую магчымасць кожнаму грамадзяніну. Гэта дае падставы ЦВК забараніць азнаямленне са спісамі выбаршчыкаў іншых асоб (назіральнікаў), а таксама іх перадачы цалкам альбо часткамі выбаршчыку. Выдача выбаршчыкам бюлетняў рэгламентавана ЦВК

У дзень выбараў назіральнікамі зафіксаваныя разыходжанні дадзеных яўкі выбаршчыкаў. Колькасць прагаласаўшых у дзень выбараў, па дадзеных УВК была на 27,6 % большая, чым па дадзеных назіральнікаў.

Назіральнікамі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» зафіксаваныя шматлікія выпадкі парушэння гэтай працэдуры падліку галасоў.

На 98 % выбарчых участкаў назіральнікі не мелі магчымасці паўнавартасна назіраць за працэдурай падліку галасоў. На 93% участках назіральнікі адзначылі, што адлегласць да стала, на якім вёўся падлік бюлютэняў, не дазваляла ім бачыць іх змест. Усе назіральнікі паведамілі, што падлік галасоў ажыццяўляўся ўсімі сябрамі камісіі адначасова, пры гэтым кожны сябра камісіі лічыў свой стос бюлютэняў. Такі спосаб падвядзення вынікаў галасавання не дае магчымасці сцвярджаць, што яны сапраўды адлюстроўваюць волевыяўленне выбаршчыкаў. Толькі ў дзвух выпадках назіральнікі адзначылі, што яны маглі ў поўнай меры ажыццяўляць назіранне за падлікам галасоў і вынік падліку не выклікаў у іх ніякіх сумневаў. У адным з такіх выпадкаў дэпутатам Першамайскага сельскага Савету дэпутатаў Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл. быў абраны незалежны кандыдат, які ў жніўні-лістападзе 2013 г. праводзіў актыўную грамадскую дзейнасць па абароне правоў сялянаў у сувязі з кампаніяй уладаў па ліквідацыі пагалоўя свіней на прыватных падворках падчас эпідэміі АЧС.

На 35% участках назіральнікі адзначылі, што сябры УВК не агалошвалі вынікі асобнага падліку галасоў, што з'яўляецца парушэннем працэдуры падліку галасоў, устаноўленай ВК. Таксама назіральнікі кампаніі зафіксавалі выпадкі, калі УВК наогул не вывешвалі для азнаямлення пратакол аб выніках галасавання.

Адбыліся выпадкі ціску на назіральнікаў і даверанах асобаў апазіцыйных кандыдатаў у дэпутаты.

spring96.org

## Колькасць прагаласаваўшых "расце" ў адсутнасць назіральнікаў

Назіральнікі адзначаюць, што калі на выбарчых участках ажыццяўляецца назіранне, то колькасць прагаласаваўшых датэрмінова меншая ў некалькі разоў.

Сталі вядомыя вынікі за першыя 3 дні датэрміновага галасавання па выбарах дэпутатаў у гарадскі і абласны саветы на выбарчым участку № 43 (СШ-21), дзе вядзецца незалежнае назіранне. На выбарчым участку зарэгістраваны толькі па аднаму кандыдату ў гарадскі савет і ў абласны ад прадстаўнікоў улады.

У першы дзень датэрміновага галасавання прагаласавалі толькі 29 выбаршчыкаў. А вось у першай палове другога дня, калі не вялося назіранне, датэрмінова ўжо прагаласавалі 159 чалавек, а ў другой палове дня, калі на ўчастках прысутнічалі незалежныя назіральнікі, прагаласавала толькі 19 чалавек. У трэці дзень датэрміновага галасавання, па падзеных выбарчай камісіі, прагаласавала 106 выбаршчыкаў, а па дадзеных назіральнікаў – толькі 92 чалавекі.

– Па выніках першых 3-х дзён датэрміновага галасавання можна зрабіць выснову: калі на выбарчых участках прысутнічаюць незалежныя назіральнікі, то колькасць прагаласаваўшых датэрмінова меншая ў некалькі разоў, – адзначыў незалежны назіральнік Сяргей Гоўша.

Усяго прагаласавала за першыя 3 дні на выбарчым участку № 43 толькі 313 выбаршчыкаў, што складае 9,5 % ад іх агульнай колькасці. Галасаванне працягваецца

"Праваабаронцы за свабодны выбары

## Суд адмовіўся разглядаць скаргу кандыдата




21 сакавіка суддзя суда Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы Жанна Капачэўская разгледзела тэрміновую скаргу кандыдата ў дэпутаты Мікалая Чарнавуса на неправамоцныя дзеянні старшыні Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акругі № 21 Ларысы Антонавай.

Мікалай Чарнавус скардзіўся на тое, што выбарчая камісія зрабіла ўсё, каб свядома не дапусціць яго выступ на баранавіцкім радыё. Ён адзначыў, што тройчы — 24, 6 і 7 сакавіка сустракаўся са спадарыняй Антонавай, і як стала яму вядома, старшыня ВК наўмысна не ўнесла яго прозвішча ў спіс кандыдатаў для выступу. 14 сакавіка і 20 сакавіка кандыдат ў дэпутаты двойчы пісаў скаргі старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай, аднак кіраўніцтва ЦВК прыняло бок выбарчай камісіі. Таму Мікалай Чарнавус і звярнуўся ў гарадскі суд, каб дабіцца вырашэння свайго пытання. Ён прасіў суд абавязаць старшыню Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акругі № 21 Ларысу Антонаву ўнесці яго прозвішча ў спіс кандыдатаў для выступу па мясцоваму радыё са сваёй передвыбарчай праграмай.

Аднак суддзя Жанна Капачэўская адмовіла Мікалаю Чарнавусу ў распачынанні грамадзянскай справы па скарзе на дзеянні старшыні выбарчай камісіі ў сувязі з яе непадлеглацю суду.

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"

# НАЗІРАЛЬНІК ПРОСІЦЬ ЦВК РАЗАБРАЦЦА З ПАРУШЭННЯМІ НА ВЫБАРЧЫМ УЧАСТКУ

Назіральнік Сяргей Гоўша накіраваў 26 сакавіка скаргу на імя старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай аб парушэнні Выбарчага кодэкса сябрамі ўчастковай камісіі № 43 г.Баранавічы пад старшынствам Мікалая Жукоўскага.

Заяўнік указвае, што 23 сакавіка ён быў акрэдытаваны ў якасці назіральніка на выбарчым участку № 43 (СШ № 21). Пасля заканчэння выбараў камісія не падлічвала невыкарыстаныя бюлетэні і не пагашала іх.

У выніковым пратаколе пазначаны надзвычай высокі адсотак галасавання па месцы жыхарства – 423 чалавека (24,85 % ад усіх прагаласаваўшых). Усе прысутныя назіральнікі палічылі гэта грубай фальсіфікацыяй.

– Адразу нам стала зразумелым, чаму старшыня камісіі на працягу дня не называў назіральнікам колькасць прагаласаваўшых выбаршчыкаў па месцы жыхарства і не паказваў спісаў, – паведаміў грамадскі актывіст.

Арганізацыяй галасавання на даму, удакладняе у сваёй скарзе Сяргей Гоўша, займаліся толькі 2 сябры выбарчай камісіі з адной выноснай скрыняй, якія прыблізна за 3-4 гадзіны далі магчымасць 423 грамадзянам (!!!) паставіць подпісы ў бюлетэнях. Прычым шмат часу выносная скрыня знаходзілася на выбарчым участку на віду сябраў камісіі і назіральнікаў.

Сяргей Гоўша таксама адзначае, што па заканчэнні падліку галасоў не быў вывешаны на ўчастку выніковы пратакол, і назіральнікі не змаглі зрабіць з яго копію.



Аб парушэннях выбарчага заканадаўства падчас падліку галасоў незалежны назіральнік напісаў і ўручыў на імя старшыні камісіі заяву, якую Мікалай Жукоўскі спачатку адмаўляўся браць, а потым неахвотна ўзяў, але як таго патрабуе закон – не разгледзеў на паседжанні камісіі і не прыняў па ёй рашэння, таму зараз Сяргей Гоўша не мае ўпэўненасці, што яго заява была перададзена ў вышэйстаячую тэрытарыяльную камісію. У сувязі з гэтым Сяргей Гоўша просіць Цэнтральную камісію праверыць вышэйвыкладзеныя факты і прыняць меры да парушальнікаў Выбарчага кодэкса. Ён таксама просіць праверыць грунтоўна законнасць галасавання па месцы жыхарства на выбарчым участку № 43.

На заканчэнні скаргі Сяргей Гоўша прапануе ЦВК запрасіць яго і іншых назіральнікаў для аб'ектыўнага і справядлівага высвятлення абставін 23 сакавіка на выбарчым участку № 43.

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"

## НЕВЕРАГОДНЫЯ ЛІЧБЫ ГАЛАСАВАННЯ ПА МЕСЦЫ ЖЫХАРСТВА

Выбары ў мясцовыя саветы высветлілі надзвычай "высокі" адсотак галасавання па месцы жыхарства. Так, на выбарчым участку № 49 у дзень выбараў 23 сакавіка прагаласавала, па дадзеных незалежных назіральнікаў, 396 выбаршчыкаў, а па месцы жыхарства – 403 чалавекі, г. зн., больш, чым на выбарчым участку за цэлы дзень галасавання. Арганізацыяй галасавання на даму займаліся толькі 2 сябры выбарчай камісіі з адной выноснай скрыняй, якія прыблізна за 3 гадзіны сабралі 403 подпісы (!!!!!!) грамадзян. Выклікае недавер, што на тэрыторыі выбарчага ўчастку пражывае 26,5 % выбаршчыкаў — інвалідаў і цяжкахворых людзей, якія не могуць прыйсці на ўчастак галасаваць. Здзіўляе таксама фантастычная прадукцыйнасць працы 2-х сябраў камісіі, якімі кіруе нядаўняя загадчыца ідэалагічнага аддзела гарвыканкама Таццяна Жытко. Цікава, што 11 астатніх сяброў камісіі за цэлы дзень выбараў прынялі толькі 396 выбаршчыкаў.

Такая ж карціна назіраецца і на выбарчым участку № 43, камісію якога ўзначаліў дырэктар СШ № 21 Мікалай Жукоўскі. На гэтым участку прагаласавала ў дзень выбараў, па дадзеных незалежных назіральнікаў, 563 выбаршчыкаў, а па месцы жыхарства – 423 чалавека (24, 9% ад усіх прагаласаваўшых), што фізічна зрабіць 2-м чалавекам з адной скрыняй за некалькі гадзін проста немагчыма.

– Фальсіфікацыя выбараў набыла масавы характар. Калі такое нахабства магчыма ў прысутнасці незалежных назіральнікаў, то ўявіце сабе, што робіцца на выбарчых участках, дзе няма альтэрнатыўных кандыдатаў і незалежных назіральнікаў, – адзначыў назіральнік Сяргей Гоўша.

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"

АКЦЫЯ

# АДЗІНОЧНЫ ПІКЕТ САЛІДАРНАСЦІ З УКРАІНСКІМ НАРОДАМ

За пікет салідарнасці з украінскім народам складзены пратакол

У Баранавічах ля кінатэатра "Кастрычнік" 4 сакавіка грамадскі актывіст Уладзімір Гундар правёў адзіночны пікет салідарнасці з украінскім народам.




Актывіст з блакітна-жоўтым сцягам на плячах разгарнуў каляровы плакат "Пуцінскія банд-агрэсары геть з Украіны, прэч з Беларусі".

Такое неардынарнае відовішча прыцягнула ўвагу многіх мінакоў. Хтосьці выказваў пікетоўшчыку сваю падтрымку, але нярэдка ў яго бок чуліся і негатыўныя словы.

Хвілін праз 10 пасля пачатку пікета да Уладзіміра падышлі супрацоўнікі міліцыі. Праверыўшы дакументы, яны пайшлі далей. Аднак праз некаторы час міліцыянеры вярнуліся назад і папрасілі Уладзіміра скруціць плакат. Яны выклікалі міліцэйскую патрульную машыну і адвезлі Уладзіміра Гундара ў ГАУС. Тут быў складзены на яго адміністрацыйны пратакол пасля чаго грамадскі актывіст быў адпушчаны дадому.

Арганізатар пікету супраць вайны Расіі з Украінай Уладзімір Гундар 14 сакавіка атрымаў позву ў суд, які адбудзецца 21 сакавіка а 15 гадзіне. Позву ў гарадскі суд грамадскаму актывісту ўручыў супрацоўнік ГАУС капітан міліцыі Юрый Русакоў.

Арганізатар пікету супраць вайны Расіі з Украінай аштрафаваны на 15 базавых велічынь

21 сакавіка ў судзе Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы Уладзіміра Гундара, які арганізаваў 4 сакавіка ў цэнтры Баранавічаў адзіночны пікет супраць вайны Расіі з Украінай. Вёў судовае паседжанне суддзя Станіслаў Півавар.

Уладзімір Гундар не прызнаў сябе вінаватым у парушэнні арт. 23.34 КаАП Рэспублікі Беларусь – арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. Ён адзначыў, што арт. 33 Канстытуцыі кожнаму гарантуе свабоду меркаванняў, поглядаў і іх вольнае выказванне. Таму, па словах грамадскага актывіста, 4 сакавіка ён правёў адзіночны пікет салідарнасці з украінскім народам супраць агрэсіі Расіі, накрыўшы плечы блакітна-жоўтым сцягам Украіны і разгарнуўшы каляровы плакат "пуцінскія банд-агрэсары геть з Украіны, прэч з Беларусі".



Уладзімір Гундар чытае з "Бібліі" мудрасць Саламона аб справядлівасці суддзяў

Напрыканцы свайго выступу Уладзімір Гундар зачытаў з "Бібліі" мудрасць Саламона аб справядлівасці суддзяў, падкрэсліўшы, што суддзі ў сваіх рашэннях павінны кiравацца не толькі законам, але і маральнымі каштоўнасцямі.

Суддзя Станіслаў Півавар прызнаў Уладзіміра Гундара вінаватым у здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага ч. 2 арт. 23.34 КаАП РБ – арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства і прысудзіў адміністрацыйны штраф у памеры 15 базавых велічынь (1 млн. 950 тыс. рублёў).

Вітусь Свабодскі

## Перадвыбарчы пікет кандыдата ў дэпутаты Рыгора Грыка




СУПРАЦЬ ВАЙНЫ І ЗА СВАБОДУ МІКАЛАЯ СТАТКЕВІЧА

Кандыдат у дэпутаты Баранавіцкага гарадскога савета па гарадской выбарчай акрузе № 15 Рыгор Грык 15 сакавіка ў маладым парку правёў адзіночны пікет супраць вайны і за свабоду Мікалая Статкевіча. Прафсаюзны актывіст, адзеўшы турэмнае адзенне, трымаў у руках 2 плакаты "Свабода Мікалаю Статкевічу" і "Не вайне". Дадзены пікет быў санкцыянаваны ўладамі і праводзіўся пад пільным вокам міліцыі. Праўда, супрацоўнікам патрульна-паставой службы Яўгену Блізнюку і Марку Лінгу не спадабалася адзенне пікетоўшчыка і асабліва змест плакатаў. Яны спрабавалі спыніць дазволены пікет. Аднак Рыгор Грык змог адстаяць сваё права на свабоду сходаў, гарантаванае арт. 35 Канстытуцыі і Выбарчым кодэксам РБ.

– На нашых вачах пачынаецца вайна Расіі з Украінай. Гэта агрэсія Расіі супраць братняга народу, таму выказваю свой пратэст. Адначасова заўляю, што ў Беларусі не павінна быць палітзняволеных, нельга саджаць людзей у турмы за іх погляды.

Правесці пікет кандыдату ў дэпутаты не перашкодзілі як моцны вецер і дождж са снегам, так і некаторыя агрэсіўна настроенныя гараджане.

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"

## Перадвыбарчыя пікеты кандыдата ў дэпутаты Рыгора Грыка




ГРАМАДЗЯНСКІ КАНТРОЛЬ ЗА ДЗЕЙНАСЦЮ ЎЛАДАЎ

У Баранавічах кандыдат у дэпутаты гарсавета па гарадской выбарчай акрузе № 15 Рыгор Грык правёў 5 сакавіка першы перадвыбарчы агітацыйны пікет у маладым парку горада з боку вуліцы Камсамольскай. Удзельнікі трымалі шматлікія плакаты і транспаранты “Дзейнасці ўладаў – грамадзянскі кантроль”, “Кантракт – рабства для рабочага чалавека”, “Кантракт – пятля для працоўных”, “Улада жадае, каб мы маўчалі” і іншыя.

Мінакі з цікаўнасцю разглядалі і чыталі плакаты і транспаранты. Адныя выказвалі пікетоўшчыкам словы ўдзячнасці і падтрымкі, а людзі старэйшага ўзроста абураліся дзеяннямі “праклятых майданаўцаў”.

За ўдзельнікамі пікету назіралі міліцыянты, а чалавек у цывільным здымаў пікетоўшчыкаў на відэа.

“Праваабаронцы за свабодныя выбары”

ФЕМІДА

# НЕЧАКАНАЕ РАШЭННЕ СУДА – ЗАБАРОНА ГАРВЫКАНКАМАМ ПІКЕТА ПРЫЗНАНА НЕЗАКОННАЙ

У сераду 5 сакавіка суддзя суда Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы Вольга Апановіч праводзіла паўторнае судовае пасяджэнне, на якім разглядалася скарга Рыгора Грыка на неправамоцныя дзеянні гарадскіх чыноўнікаў, якія незаконна адмовілі прафсаюзнаму актывісту ў правядзенні пікета. Намеснік старшыні райвыканкама Дз. Касцюкевіч вырашыў, што лозунг масавага мерапрыемства “Дзеянні ўлады і законы РБ – пад грамадзянскі кантроль” парушае арт. 10 Закона “Аб масавых мерапрыемствах”, што стала галоўнай прычынай забароны масавага мерапрыемства.




Грамадскі прадстаўнік Рыгора Грыка ў судзе праваабаронца Уладзімір Малей патлумачыў суду, што згодна арт.10 Закона “Аб масавых мерапрыемствах” пікет можа быць забаронены, калі яго мэтаю з’яўляецца ажыццяўленне прапаганды вайны ці экстрэмісцкай дзейнасці. Праваабаронца прасіў прадстаўнікоў гарвыканкама Паўла Кыткіна і Таццяну Чылік патлумачыць прысутным у судзе людзям: чаму лозунг “Дзеянні ўлады і законы РБ – пад грамадзянскі кантроль”, на думку супрацоўнікаў гарвыканкама, прапагандуе вайну і экстрэмізм?

Спачатку Павел Кыткін заявіў суду, што, на яго думку, згаданы лозунг масавага мерапрыемства не парушае арт. 10 Закона “Аб масавых мерапрыемствах”. Але ён так і не змог адказаць суддзі Вользе Апановіч на пытанне: чаму ж гарвыканкам забараніў тады пікет прафсаюзнаму актывісту Рыгору Грыку, спаслаўшыся на парушэнне менавіта арт. 10? Супрацоўніца аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Таццяна Чылік паведаміла суду, што лозунг пікета “Дзеянні ўлады і законы РБ – пад грамадзянскі кантроль” мог бы выклікаць незадаволенасць грамадзян, а неаб’ектыўная крытыка гарадскіх уладаў можа прывесці да дэстабілізацыі грамадска-палітычнай абстаноўкі, а гэта значыць да экстрэмізму і вайны. Вось так!!!

– Які ж гэта экстрэмізм, калі мы неаднаразова збіралі подпісы жыхароў горада супраць росту коштаў на жыццё і паслугі, гандлю няякаснымі спіртнымі напоямі, за павышэнне заробкаў і пенсій, добраўпарадкаванне гарадскіх паркаў і дарог, за змены выбарчага заканадаўства, будаўніцтва магазіна на праспекце Машэрава і вуліцы Гаевай, разліковага цэнтра каля прыпынка па вул. Фабрычная і г.д. Аднак мясцовыя чыноўнікі не спяшаюцца выконваць пажаданні людзей. Таму сваім пікетам я хацеў звярнуць увагу нашых грамадзян, што чыноўнікі горада недастаткова і несваечасова рэагуюць на звароты і прапановы людзей. Але мне чарговы раз незаконна забаранілі правядзенне пікета, нягледзячы на тое, што я не толькі заключыў дамовы з палiклінікай, ЖКГ і міліцыяй, але і выканаў усе патрабаванні закону аб масавых мерапрыемствах, – паведаміў суду Рыгор Грык.

У выніку суддзя Вольга Апановіч прызнала рашэнне намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча ад 15.01.2014г. аб адмове Рыгору Грыку ў правядзенні пікета 26 студзеня 2014г. у заяўленым месцы незаконным і абавязала гарвыканкам выплаціць заяўніку дзяржаўную пошліну ў памеры 130 тыс. рублёў.

spring96.org

“ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК” Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

Веснік ПРАВАБАРОНЧЫ